Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ 20 ГРОШ.

# ЗАГОН

## АДНАДНЁЎКА

Вільня, Нядзеля 7 чэрвеня 1925 г.

## Тугутт і тугуттоўцы.

Гаварыць і пісаць аб „левіцовых“ партыях хіба, што нікалі ня будзе лішне. Перад усім аб „Вызваленьню“ і „П.П.С.“. Мала таго, што яны чмуцяць свой польскі працоўны народ, ім удалося яшчэ ўплюнуцца і ў беларускую народную гушчу, а таксама і ўкраінскую, хоць крыху меней, бо народ там больш сьведамы. Нахапалі гэтыя панкі столькі пасольскіх мандатаў, што й самі не спадзяваліся. Ведама, збаламучаны народ ахвотна галасаваў за № 3 (Вызваленьне) ці на Палесьсі за № 2, бо абяцалі даць зямлю бяз выкупу, асадніцтва скасаваць, даць родную школу і навет аўтаномію. Абяцанка — цацанка, а мужыку радасьць. Вось, дык найшлі сабе добрых правадыроў! Абяцалі ня менш за бальшавікоў, толькі-ж бяз ніякага клопату: ані табе „камуніі“ ня трэба завадзіць, ані „рэвалюцы“—проста пагаласавалі, пакідалі паперкамі з трэцім ці 2 нумарам і ўсё гатова. Проста як у казцы.

Тым часам праходзіць год, другі і канчаецца трэці, а палёгкі для народу ніякае няма. Зямлі як ня было, так няма. Асаднікі, пабраўшы найлепшыя землі, цяпер забіраюць, з ласкі вызваленцаў і пэпэсаў, вялізарныя грошы з казны на падмацаваньне сваіх гаспадарак і жыватоў; яны забіраюць тыя грошы, што іх плацяць напоўгалодны і абдзёрты народ, а самыя-ж ніякіх падаткаў у казну не даюць. Вышлі куртатыя школьныя законы, але й тых войты і школьныя інспэктары не даюць праводзіць у жыцьцё. Аб аўтаноміі—адны пэпэасаўскія жарты...

Пара, ужо даўно пара сказаць народу, як яго бароняць у Сойме вызваленскія і пэпэасаўскія пасты.

Перш-на-перш аб „Вызваленьні“. Як ведама, правадыром гэтай партыі быў пан Тугутт, а вызваленцаў называлі навет інакш „тугуттоўцамі“. Дык вось, гэты Тугутт, змовіўшыся з эндэкам Стан. Грабскім, правёў са згодай усяго „Вызваленьня“ і „П.П.С.“ крыўдныя для нас школьныя законы. Усе паны і ўсе эндэкі надта хвалілі за гэта пана Тугутта. І вось,—ці то хвальба гэтая надта яму спадабалася, ці мо' запраўды ён думаў, што ў хаўры з панамі можна нешта зрабіць для народу — толькі паддаўся Тугутт панскім намовам і пашоў у панска-буржуазны кабінэт міністрам ды йшчэ такім міністрам, што сам ня мае чаго рабіць, а толькі прыглядаецца, што другія робяць. Асаблівы-ж дагляд быў даручаны п. Тугутту за „Усходнімі Крэсамі“. І пачаў гэты доктар езьдзіць па Крэсах, даваючы рады паном, каб часткy сваей зямлі прадалі мужыкам, а сялян беларускіх страшачы кругавой парукай і крывавай расправай. А гэтыя пагрозы народу выказываў „народны“, „людовы“ міністар цьвёрдым, зычным і даносным голасам. Відаць было, што хоча спадабацца паном і высокім чыноўнікам, пагазуючы моцны кулак і без таго запуджанаму беларускаму селяніну ці вяскоdаму інтэлігенту.

Адміністрацыя і без таго ня мала біла народ, а як паказаў кулак сам Тугутт, то йшчэ й папраўлялася: успомнім здзекі ў Красным, успомнім арышты ў Наваградчыне.

Праўда, казаў п. Тугутт часам і аб тым, што трэба зрабіць нейкія рэформы, нейкую паправу, але штó іменна трэба зрабіць, бадай што сам ён ня ведаў. Дый гаварыў ён аб гэтым голасам такім глухім, саромлівым ціха, быццам баяўся кагосьці.

І зразумела, што урад аб ніякіх уступках і слухаць не хацеў. Выходзіла, што гаворыцца аб рэформах толькі дзеля віду, каб яшчэ раз салодкімі абяцанкамі пазводзіць народ ды пусьціць дым у вочы заграніцай. А на гэта п. Тугутт майстра: на пратэст ведамых францускіх палітыкаў, вучоных і пісьменьнікаў працi „белага тэрору“ у Польшчы ён адказаў пісьмом, дзе бажыўся, што у польскіх турмах дужа добрыя парадкі і паліцыя... нікалі ня б'ець.

Але гэтае пусканьне дыму усё-ж не памагло яму настолькі ўкупіцца ў ласку у паноў братоў Грабскіх ды дастаць такое месца ва ўрадзе, каб можна было хоць нешта правесьці на дзеле. Урэшце пан Тугутт, відаць, даволі набавіўшыся міністэрскімі цацкамі, загневаўся вельмі і, выходзячы з ураду, моцна бразнуў дзьвярыма.

Забыўшыся, аб сваім пісьме да францускіх вучоных, цяпер ён—яшчэ не застыгшы міністэрскі труп,—публічна заяўляе, што міністэрства ўнутраных спраў завяло ў сябе „сыстэму правакацыі, пакрываньне надужыцьцяў і самаволі ўрадоўцаў, перавод чыноўнікаў на вышэйшыя становішчы, калі ім трэ было-б сядзець за турэмнымі кратамі“.

Такім чынам навет тыповы ўгадовец і тыповы мешчанін ня мог зварыць піва з буржуазна рэакцыйным урадам Грабскага. І што—якія вывады зрабіў пан Тугутт з сваей міністэрскай практыкі, урэшце з сваіх слоў? Ніякіх... А вывад ясны: раз міністры благія, раз урадоўцы йшчэ горшыя, то трэба зьмяніць ня толькі міністраў, ня толькі ваяводаў, старостаў, ды іншых паноў чыноўнікоў, але трэба зьмяніць увесь дзяржаўны лад і новы парадак будаваць ад самага фундаманту. Пан Тугутт часам дагаварываецца навет да рэволюцыі, але-ж тутака пабаяўся навет запраўдна сьмелых і дарэчных слоў.

Цяпер Тугутт правадыром малюсенькай групкі паслоў, якая назвала сябе вельмі важна „Партыяй Працы“. Гэтыя паслы вышлі з „Вызволеньня“ *працаваць* над тым, каб ня даць сялянам зямлі бяз выкупу. У гэтай важнай партыі ак 6 паслоў а ў тым ліку нашыя знаёмыя з Віленшчыны: сэн. Кршыжаноўскі ды паслы Хомінскі і Косьцялкоўскі. Прыпамінаем гэтым паслом, што ў часе выбараў яны шырока раздавалі зямлю бяз выкупу.

Але відаць, што у паноў цяперашніх і бывшых „вызваленцаў“ слова цэніцца лёгка і танна. У часе выбараў абяцаліся „вызваленцы“ змагацца з асадніцтвам, а цяпер уважаюць, што асадніцтва трэба пашырыць і... каб падняць культуру і дабрабыт беларускага ці ўкраінскага селяніна, трэба—кажуць яны—пасадзіць на „крэсах“ больш асаднікаў.

Мо' каму йшчэ трудна паверыць, але-ж так чорнае на белым піша цяперашні правадыр „Вызваленьня“ пасол Панятоўскі ў газэце „Kurjer Poranny“ 3 чысла гэтага месяца. Гэтую „простую“ і „здаровую“ думку аб асадніцтве прыпісвае вызваленскі пасол Пілсудскаму і ўважае, што асаднікі здалі дужа добра свой экзамен, — бо „навет у трудных варунках вайсковых асаднікі ўмелі знайсьці дарогу, каб зжыцца і разам працаваць з тутэйшым мужыком, пачалі выпаяняць ролю ініцыятара і арганізатара гаспадарчага жыцьця вёскі“. Выходзіць так, што беларускі ці ўкраінскі мужык бяз польскага асадніка ня ўмее ані жыць, ані працаваць, ані арганізавацца. Асаднік забірае зямлю, плаці за яго падаткі (бо ён сам з казны толькі бярэ розныя запамогі), а тут яшчэ дзякуй яму!

Вось як гавораць вызваленскія паслы ў Варшаве... Там праектуюць забіраць землі пад асадніцтва, а тут розныя Гэльманы, Кордовскія, Адамовічы і іншые Галкі чмуцяць народ зусім іншымі абяцанкамі.

Але годзі! Не заўсёды-ж народ будзе, як цяля, пазнае ўрэшце круцяля!!

## Навакол адстаукі п. Тугутта.

(Цікавая „палеміка“ паноў міністраў).

Арымаўшы адстаўку, п. Тугутт зрабіў журналістам вельмі цікавую заяву, значна больш пэсымістычную, чым тыя, што ён рабіў будучы міністрам—у Вільні і ў Варшаве.

Быўшы віцэ-прэм'ер **сьцьвярджае** (як кажа сам).

1. Што яму, ня гледзячы на тое, што „ён вельмі мала вымагаў“, „**зрабіць нічога не ўдалося**“ (апроч нейкіх нязначных рэчаў — „cokolwiek“ — у „адбудове“—касьцёлаў?);

2. Што вымагаў ён „**толькі**“, каб урад — ці паны прэм'ер з міністрамі—„бралі паважана свае-ж уласныя словы“,—каб „законы выпаўняліся, а канстытуцыя шанавалася“... peczywistość (! ці — „на жаль, больш точна і ясна — паны міністры) не задаволілі навет гэтых найскрамнейшых (!!) трэбаваньняў“;

3. Што для зямельнай рэформы зіму змарнавалі, топчучыся на мейсцы;

4. Што састаяньне вастрогаў усе пагаршаецца;

5. Што сьветна разьвіўшымся ўкраінскім каапэратывам адмовілі ў крэдытах;

6. Што урад „ня верыў“ (!) у голад у паветах неўраджайных (зразумела—на „Крэсах“);

7. Што „ніжэйшыя (?!) органы міністэрства асьветы (напрыклад сам міністар Грабскі, ня кажучы ўжо аб Гонсёровскіх і Сьвідэрскіх) выявілі надзвычайна мала сумленнасьці (skrupulatności) у шанаваньні духу законаў;

8. Што „незалежны“, але нічога ня ведаючы міністар унутр. спраў узрасьціў усе пашыраючуюся сыстэму правакацыі, і... павышэньняў на лепшыя пасады ўрадоўцаў (паліцыянтаў), якім месца „за рашоткай“ (za kratkami), ахоўваючы іх самаволю і надужыцьці.

---

Дык вывадам з усяго гэтага яго бяссільля і явілася адстаўка. Пакідаючы ўладу, п. Тугутт, па стара польскаму звычаю, пакінуў ураду ці... гісторыі, так сказаць,—„канстытуцыю 3 мая“ (пад завеху...)—для „Крэсаў“, якая складаецца аж з 54 артыкулаў. Гэтыя „54 пункты“ ці „тэзісы крэсавай рэфармацыі“—і маюць быць „праграмай ураду“ (якога?)—тэстамэнтам нябожчынк Тугутта.

Якія гэтыя „пункты“, можа, даведаемся з гісторыі.

Цікава, што мілы п. Тугутт, раскрыўшы нам гэткую „poczciwość“ п. п. міністраў, кажа, што „ў тым, што ён раскрыў, няма ніякога акту абвінавачаньня ані проці ўраду, ані проці дзяржавы (Польскай), бо... можа, якая іншая была-б яшчэ горшай“... Калі ўсе гэта пісалі газэты, дык гэта была ўсё—„брахня“ і—антыпольская прапаганда. Але цяпер усе гэта сьцьвярдзіў сам віцэ-прэм'ер Польшчы. Але найцікаўней, што п. Тугутт тлумачыць гэтую адмову ўраду спаўняць свае законы і абяцаньні—для „Крэсаў“ тым, што там... ужо спыніліся дывэрсыйныя і бандыцкія напады... Паны бандыты і дывэрсанты, чуеце,—якую дадатную ролю йграеце вы ў палітыцы паноў міністраў?!..

Можа й запраўды пачулі ўжо, калі заварушыліся ізноў...

---

П. міністар унутраных спраў, якога „poczciwość“ і „pracowitość“, памагаючыя... узросту сыстэ-

мы правакацыі, самаволі і надужыцьцяў так „podnosił“ Тугутт, напісаў вельмі гарачае пісьмо да прэм'ера, у якім рашуча заяўляе, што усе гэтыя „цяжкія абвінавачаньні“ былага віцэ-прэм'ера — брахня, не абапертая ні на водным факце (!..)

„Robotnik“ піша, што п. Ратайскаму ляпей было-б памаўчаць аб гэтай „матэрыі“, а хутчэй паслаць да прэм'ера другі ліст—з прашэньнем аб адстаўцы...

Шукаюць „наступніка“ п. Тугутта. Паўафіцыяльна заяўляецца ў газэтах, што урад мае запрапанаваць становішча „міністра бяз партфэлю“ (для „шыльду“) якому-неб. іншаму „лявіцоўцу“— „Kur. Warsz.“ дадае, што з пэпэзсаўцаў...

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### З'езд правінцыяльных дырэктароў Польскага Банку.

У Варшаве адбыўся з'езд дырэктароў правінцыяльных аддзелаў Польскага Банку—у справах, якія ня могуць быць вырашаны шляхам перапіскі.

Ясна, што на першым пляне павесткі стала справа катастрафічнага падзеньня (аж на палову вартасьці) (—гл. Expr. Wil.“) акцыяў Польскага Банку...

### „Супакоіваючае“ экспозэ польскага прэм'ера.

З прычыны вялікай трывогі, ахапіўшай польскае грамадзянства з паводу небясьпекі, пагражаючай польскаму злотаму, а перад усім — усіх, „паставіўшых на польскага каня“ заграніцай, прэм'эр і міністар фінансаў Грабскі зрабіў перад варшаўскімі журналістамі „супакоіваючы“ даклад аб запраўдным фінансава-эканамічным палажэньні Польшчы.

Нажаль, найбольш кампэтэнтны ў гэтых справах міністар знайшоў дапраўды-ж вельмі мала што сказаць супакоіваючага. Страшэнны гаспадарчы дэфіцыт Польшчы за першую трэціну года, катастрафічную „ўцечку“ валюты з Польскага Банку, дык значыць і пэўную пагрозу злотаму — усё гэта п. Грабскаму прышлося так ці інакш—славамі ці маўчаньнем—толькі пацьвярдзіць.

Што думае рабіць міністар фінансаў і прэм'ер з гэтымі сумнымі пагрозамі, што запраўды ёсьць у сучасны мамэнт „у гатоўцы“ пацяшаючага, высокі, але больш-менш праўдзівы аратар не сказаў. Што безрабоцьце зьменшылася на 11 тысяч, гэта — добра, але асталося яшчэ безработных 175,000, а галоўная рэч, што крызіс эканамічны ўсё расьце, ня гледзячы на гэты „пасьпех“. Вельмі незначнае падзеньне цаны на хлеб, гэта—адна з чаргуючыхся фазаў хістаньня гэтай цаны, і заўтра апошняя можа пайсьці ўгару.

Недахват унутранага крэдыту, забіваючы прамысловасьць і таргоўлю краю, міністар зусім адмовіўся лячыць,—перад усім дзеля таго, што дзяржаўны скарб ці Банк сам ня мае грошаў. Ня мае сама дзяржава і замежнага крэдыку. Вельмі цікавую рэвэляцыю міністар зрабіў адносна амэрыканскай пазыкі. Мы памятаем, што, калі яна была абяцана, дык урад урачыста заяўляў, што яна ні ў якім выпадку ня будзе „з'едзена“—ня будзе змарнавана на латаньне бюджэтнага дэфіцыту. Звычайныя выдаткі на „кватэру, страву, адзетак і „службу“ яснавельможнага панства, але будзе выкарыстана на розныя даходныя для—дзяржавы — „інвэстыцыі“ ці прадпрыемствы. І вось, цяпер сам прэм'ер сазнаўся, што гэты амэрыканскі („пробны“) заём амаль ня ўвесь пайшоў, праўда, не на „службу“, не на казённыя, але на прыватныя выдаткі яснавельможных паноў,—бо на латаньне гаспадарчага дэфіцыту. Амэрыканскі заём пайшоў на пакрыцьце якраз уцёкшых заграніцу запасаў Польскага Банку, якія паны выдалі на розныя пекныя і смачныя, але каштоўныя рэчы, выпісаныя з заграніцы. Напрыклад адных апэльсынаў Польшча зьела аж на 25 мільёнаў злотых!.. А зьелі хіба ж не сяляне і не работнікі!.. Дык дзіва, што п. Міністар павінен быў сцьвярдзіць, што і другая старана (Амэрыка) лічыць „спробу“ няўдаўшайся і паўтараць яе ня зьбіраюцца. Адно, што можа яшчэ адратаваць Польшчу, гэта—добры ўраджай. А ўраджай можа даць—у крэдыт — толькі адзін Бог. Дык вось, аб гэтай адзінай даступнай для Польшчы „заграні́чнай“ пазыцы пан прэм'ер і запрапанаваў памаліцца паном журналістам. А ведама, што гэты найтанейшы крэдыт „Нябеснага Банку“ больш, як каму іншашу, забясьпечаны Польшчы!.. Бо—дзе-ж дапраўды больш запраўдных „дырэктароў“ і „паўнамоцнікаў гэтага Банку, як ня ў Польшчы!? Дык — для трывогі дапраўды-ж няма зусім ніякай падставы...

### Напад на цягнік пад Ваўкавыскам.

30-га траўня ў палове 5 гадз. раніцы на цягнік, што ішоў з Варшавы ў Вільню, напала банда ў 40 чалавек. Бандыты з лесу абстралялі цягнік. Але машыніст, убачыўшы, што рэльсавы шлях—цэлы і чысты, пусьціў на ўсіх парох цягнік, які праскочыў і ўцёк ад бандытаў. Сярод пасажыраў, зрабілася ад страляніны вялікая паніка. Адзін з іх ранены, але лёгка.

Пасьля гэтага банда, спаткаўшы на шляху 2 паліцыянтаў, аднаго з іх забілі, другога цяжка ранілі. Наладжана зараз-жа пагоня за бандай, якая ўцякла ў Белавежскую пушчу. Як сцьверджана па дзіркам ад куляў, банда азброена была ў францускія карабіны (!).

### Яшчэ напады.

24/V банда ў 8 чалавек напала на пляцоўку пагранічнікаў у мясцовасьці Мільча, Вялейскага павету. Бандыты былі адбіты і ўнясьлі з сабой аднаго цяжка раненага.

— З Дзісьненск. пав. пішуць аб нападзе банды на пляцоўку пагранічнікаў № 1 у раёне Галубічаў. Адбітая банда ўцякла за кардон.

„Dz. Wil.“.

### Новы напад.

25-га траўня банда ў 7 чалавек напала на двор Пашкевіча ў Малай Ялонцы, Бярэсьцейскага павту. Бандыты абрабавалі дом і ўцяклі ў Белавежскую пушчу.

### У віленскім судзе.

29/V Віленскі Акружны Суд пры зачыненых дзьвярох разглядаў даўно ўжо адкладаную справу Канчэўскага, Салагуба (вучань Беларус. Гімнагіі) і Танэнбаўма, якія абвінавачывалія па 102 арт. К. К., за прыналежнасьць да беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі. Баранілі адв. Врублеўскі—Канчэўскага і Салагуба, Дурач з Варшавы—Танэнбаўма.

Старшынёй быў п. Аўсянка, судзьдзямі Зодзевіч і граф. Чапскі, пракурорам — Кавэрскі. Суд засудзіў двох на пазбаўленьне правоў і катаржную турму. Танэнбаума на—6 гадоў, Канчэўскага на—4 годы, Салагуба на — 2 гады крэпасьці. Засуджаныя падаюць апэляцыю.

### Дратаваньне кардону.

Корпус пагранічнае стражы ў Віленшчыне пачаў рабіць кардон з калючага дроту ўдоўж равай граніцы і—высякаць лясы на граніцы. Дзісьненскі адрэзак граніцы амаль ужо ня скончаны.

### „Клясычны край рэспубліканскіх самаўрадаў“ ці—каралеўства п. Ратайскага.

Калі спэцыяліст ад самаўрадаў п. Ратайскі стаў міністрам, дык ён заявіў, хаця ён нічога не разумее ў справах адміністрацыі, а перад усім — у першы раз пачуў, што ў Польшчы, апрача Заходніх Крэсаў, дзе ён быў „панам Банькоўскім“, істнуюць яшчэ і Усходнія, аднак жа, што да спраў самаўрадаў, дык гэта — справа яго гонару, прызваньня, фаху і „zamiłowania“. Дык вось, „Robotnik“ падлічыў, што цяпер за панаваньнем „унутры Польшчы“ міністра — самаўрадаўца Ратайскага—у Польшчы „ўрадуе“ заместа гмінных самаўрадаў аж 2.400 урадовых камісараў, а другая сталіца Польшчы Кракаў ужо 10 месяцаў таксама акупавана ўрадавым чыноўнікам.

Вось, як узапраўднасьці выглядае край, які хваліцца тым, што ён грамадзкую самастойнасьць кладзе, як падставу, свайго дзяржаўнага жыцьця...

### „Правда“ аб польска-чэшскім зблізкэньні.

„Правда“ зьмясьціла вялікі артыкул Радэка аб польска-чэшскім зблізкэньні, з пагляду ССРР. Радэк сцьвярджае, што Бэнэш не зрабіў Польшчы ніякіх істотных уступак і ня ў чым не зьмяніў напрамку сваёй палітыкі адносна ССРР. Чэхія ня прызнала перад усім усходняй граніцы Польшчы, а чэшскі народ не дазволіць ніякаму міністру зьмяніць сваей традыцыйнай палітыкі адносна расейскага народу.

Нажаль, толькі п. п. Скшыньскім удалося нарабіць дробных (!), але ня менш балючых, крыўдаў, украінцам і беларусам у Чэхіі.

Паддаўшыся злым нашоптам, Бэнэш згадзіўся зачыніць украінскі ўнівэрсытэт у Чэхіі, абразае дапамогу ўсім нашым студэнтам, адкрыў чэшскі ўнівэрсытэт у Прэсбургу ў Славаччыне! і г. д.

Наагул „прыязьнь“ з п. Скшыньскім значна „палянізуе“—у мэтадах палітыкі і чэхаславацкі ўрад.

# Заграніцай.

### Сэнсацыйныя весткі аб „пакце бясьпечнасьці“.

Нямецкія газэты пішуць, быццам Англія запрапанавала Францыі—гарантыю яе ўсходняй граніцы на 30 гадоў. Быццам Францыя згадзілася ўжо на гэтую прапазіцыю.

Парыжскія газэты пішуць, што англійскі адказ адносна пакту бясьпечнасьці зрабіў вельмі добрае (!) ўражаньне ў палітычных кругох Францыі.

Гэта разглядаецца, як вялікі трыумф дыпляматыі Брыяна (!)...

Праўда, некаторыя газэты падчырківаюць, што ўступкі на карысьць Францыі зроблены коштам Польшчы, граніцы якой Англія рашуча адмовілася гарантаваць. Але за тое, Англія не забараніла Францыі... памагчы Польшчы ў разе нападу на яе. Гэткім чынам Польшча ставіцца ў поўную залежнасьць ад Францыі.

Гэткім чынам досьць плятанічна „прызнаныя“ Радай Паслоў граніцы Польшчы, а навет самы Вэрсальскі Трактат адносна Польшчы, ня кажучы ўжо аб „аканчальным падзеле“ Верхняй Сілізіі—аказаліся, з „wycofania się“ з гэтага інтарэсу Англіі—пазбаўленымі значнай долі сваей—калі не „юрыдычнай“, дык— матар'яльнай сілы, а перад усім арэолу „вечнасьці і непарушнасьці“...

### У справе „гаранцыйнага пакту“.

Англійскі ўрад выслаў рашучую ноту, у якой, крытыкуючы пагляды францускага ўраду, выстаўляе свае варункі ўчасьця ў пакце, гаран-

# Хто мае права атрымаць дапамогу (пазыку) на адбудову зьнішчаных вайной будынкау і што трэба зрабіць, каб такую дапамогу атрымаць.

Ня маючы магчымасьці адказваць кожнаму паасобку ўсім тым, хто зварочваецца да мяне адносна таго, як атрымаць дапамогу на адбудову, гэтым праз газэту падаю ўсе правілы і законы, якія істнуюць у сучасны момэнт адносна ўрадовае дапамогі на адбудову.

### I. Хто мае права карыстацца ўрадоваю дапамогаю на адбудову.

Згодна ўставе (закону) 6-га траўня (мая) 1924 г., урадовая дапамога на адбудову можа быць дана толькі грамадзянам (обыватэлям) Польскае Рэспублікі. Чужаземцы будуць карыстацца толькі тады, калі іх гаспадарствы зробяць адносныя ўмовы з Урадам Польшчы. Дапамога гэта можа быць выдана тым грамадзянам, будоўля якіх зьнішчана або сапсута падчас вайны беспасрэдна ад ваенных апэрацый, або ад іншых прычын, падчас прымусовай адсутнасьці гаспадара (эвакуацыя, бежанства, служба ў войску). Той, хто атрымае ўрадовую дапамогу, можа выкарыстаць яе ня толькі на адбудову зьнішчанае і сапсутае старое будоўлі, але й на новую гаспадарку ў іншым месцы. Згодна артык. 2 вышэйазначанае ўставы, урадовая дапамога можа быць выдана толькі самім пацярпеўшым, або, у прыпадку сьмерці, жонцы ці мужу і насьледнікам у простай лініі.

Дапамога на адбудову даецца ў першую чаргу найбольш бедным, якія дагэтуль жывуць у зямлянках і бараках; а такжа тым, хто мае менш ад 14 дзесяцін (15 гэктараў) зямлі. Дамаўласьнікі ў местах могуць атрымаць дапамогу толькі тады, калі іх памяшчэньні складаюцца ня больш як з 4-х пакояў.

Дапамога ўрадовая ў форме доўгатэрміновага будаўлянага крэдыту грашыма (або дрэвам) можа быць выдана прыватным асобам у суме 80% сапраўдных коштаў будоўлі паводле ацэнкі ўрадовае камісіі, на будынкі-ж, характару публічнага, дапамога можа сягаць да 100%

Атрыманая дапамога павінна быць выкарыстана на фактычную адбудову, а не на нейкую іншую мэту; калі атрыманая дапамога будзе абернена не на будову а на іншыя мэты, або калі той, хто атрымаў дапамогу, не распачне будавацца, без паважных к таму прычын, будзе аштрафованы на 400 злотых, або пасаджаны пад арышт на 6 тыдняў. Кары гэтыя ня будуць датычыць тых, хто часьць атрыманае дапамогі выкарыстаў на гаспадарчыя прылады (плугі, бараны, малатарні і г. д.). Згодна з арт. 12 уставы 6. у 1924 г., дапамогу, ці пазыку на адбудову трэба будзе вярнуць казне ў працягу 10 гадоў роўнымі ратамі (сплатамі), пры гэтым першая сплата прыпадаць будзе ў трэцім годзе па атрыманьні дапамогі.

За атрыманую пазыку казна будзе налічаць ня болей як 4% (гадавых) ад пазычанае сумы. Часьць, або ў надзвычайных выпадках і ўся дапамога, найбольш бедным можа быць дарована, г. зн., што яе ня трэба будзе аддаваць, але аб гэтым вырашыць асобная камісія (ваяводзкая) або на'т толькі міністэрства, калі будзе мова аб дараваньні ўсяе пазычанае сумы, ці болей як 50% яе.

Пазыкі гэтыя будуць забясьпечаны асобнымі застаўнымі лістамі, або вэксалямі, якія павінен будзе пацярпеўшы (той, хто бярэ дапамогу) выдаць казьне.

### II. Што трэба зрабіць, каб атрымаць урадовую дапамогу на адбудову зьнішчаных у часе вайны будынкаў.

Згодна з істнуючымі законамі і ўрадовымі загадамі, той з пацярпеўшых, хто хоча атрымаць урадовую дапамогу на адбудову, павінен зьвярнуцца ў тую воласьць, або староства, у межах якіх знаходзяцца зьнішчаныя будынкі. Там ён атрымае спэцыяльны блянк на заяву, якую трэба падаць старасьце (блянк заявы № 1). Заявы такія звольнены ад усялякіх падаткаў (гербавога збору). Заяву гэту трэба адпаведна запоўніць тымі дадзенымі, якія там вымагаюцца.

У пункце І-м гэтае заявы трэба напісаць імя і прозьвішча пацярпеўшага. Пад так званай „асобай праўнай“, аб якой гаварыцца ў гэтым пункце, трэба разумець, што гэта датычыць тых выпадкаў, калі дапамога патрабуецца на адбудову школ, касьцёлаў, царквы, або іншых грамадзкіх будынкаў: у гэтым прыпадку трэба напісаць назоў гэтае інстытуцыі, або асоб, упаўнамочаных, напрыклад: „Такая-та валасная ўправа“, або „камітэт будовы такое-та царквы ці касьцёла“ і т. д.

Пункт другі выпаўняецца толькі ў тым выпадку, калі просіць дапамогу ня сам пацярпеўшы (гаспадар), а ягоная жонка, дзеці, унукі, або іншыя насьледнікі ў простай лініі. Пазбаўляюцца дапамогі, г. зн. атрымаць яе ня могуць тыя, хто купіў гэту сядзібу ўжо пасьля зьнішчэньня, або ў гэтым часе атрымаў яе ў наследзтве з простае лініі.

Што датычыць пункту трэцяга, то выстарчыць, калі той, хто просіць дапамогу, мае права паводле засьведчаньня валаснога старшыні атрымаць польскае абыватэльства. Спэцыяльнае пасьведчаньне абыватэльства, якое трэба ўзяць з во-

